Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

# ЗВЯЗДА

12 чэрвеня 1991 г. СЕРАДА

№ 113 (21641)

Цана 10 кап.

Газета выдаецца са жніўня 1917 года

Орган Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Беларусі, Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў Беларускай ССР

## Знаходжанне пасла Рэспублікі Карэя ў Беларусі

Надзвычайны і паўнамоцны пасол Рэспублікі Карэя ў СССР Гон Ро Мён, які знаходзіцца ў Беларускай ССР, 11 чэрвеня быў прыняты Старшынёй Савета Міністраў БССР В. Ф. Кебічам. У час гутаркі абмяркоўваліся магчымыя напрамкі супрацоўніцтва Беларускай ССР з Рэспублікай Карэя.

У той жа дзень Гон Ро Мён сустрэўся з міністрам замежных спраў БССР П. К. Краўчанкам і старшынёй Дзяржаўнага камітэта рэспублікі па знешніх эканамічных сувязях У. В. Радкевічам. Былі праведзены перагаворы аб устанаўленні і развіцці беларуска-паўднёвакарэйскіх сувязей.

Госці наведалі мемарыяльны комплекс «Хатынь» і ўсклалі кветкі да вечнага агню мемарыяла.

12 чэрвеня надзвычайны і паўнамоцны пасол Рэспублікі Карэя ў СССР Гон Ро Мён з жонкай адбываюць у Маскву.

(БЕЛТА).

## Да візіту патрыярха Маскоўскага і ўсяе Русі Алексія II у Беларусь

У Беларусі з 15 па 19 чэрвеня будзе знаходзіцца з візітам патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі Алексій II. Гэта першае наведанне беларускіх зямель прадстаяцелем Рускай праваслаўнай царквы з часоў хрышчэння Русі.

У час першасвяціцельскага падарожжа найсвяцейшы патрыярх зробіць паездкі па трох буйнейшых епархіях Беларускай праваслаўнай царквы — Мінскай, Магілёўскай і Гомельскай, наведаўшы найбольш пацярпеўшыя ў выніку чарнобыльскага ядзернага бедства вобласці.

Знаходзячыся ў межах Беларусі, яго святасць пакланіцца праваслаўным святыням нашай Айчыны — Мінскай і Жыровіцкай цудатворным іконам Божай маці, якія знаходзяцца ў кафедральным Свята-Духавым саборы сталіцы і Свята-Успенскім саборы Жыровіцкага манастыра.

**Беларускі экзархат Рускай праваслаўнай царквы.**

## АПОШНЯЯ ІНФАРМАЦЫЯ АД 18 ДА 18 СУТАК

Мінск

### ГОРАД ЗМОЖА СПАЦЬ СПАКОЙНА?

**МАГІЛЁЎ. Горад літаральна захліснула хваля крадзяжоў дзяржаўнай, кааператыўнай і ўласнай маёмасці. Асабліва пачасціўся крадзеж з прадпрыемстваў і арганізацый, дзе матэрыяльна-тэхнічныя каштоўнасці захоўваюцца не на належным узроўні. У міліцыі ж не хапае сіл для эфектыўнай барацьбы са злачынцамі.**

Таму па ініцыятыве начальніка абласнога ўпраўлення ўнутраных спраў Барыса Алданава адбылося пасяджэнне гарадскога савета дырэктараў, дзе заслухалі пытанне аб нездавальняючым стане спраў па ахове сацыялістычнай уласнасці. Кіраўнікі прадпрыемстваў вырашылі накіраваць 5 мільёнаў рублёў для лепшага забеспячэння УУС і стварыць гарадскі цэнтралізаваны фонд аховы правапарадку і аховы маёмасці прадпрыемстваў, арганізацый і грамадзян. А пры гарвыканкоме будзе адкрыты спецыяльны рахунак для ўзносаў прадпрыемстваў, дыферэнцыравана ад іх прыбытку за мінулы год. Савет з прадстаўнікоў арганізацый, прадпрыемстваў і дэпутатаў гарсавета будзе кантраляваць мэтазгоднасць расходу сродкаў. Такім чынам, магілёўскую міліцыю падтрымаюць не на словах, а на справе. Можа, тады і горад будзе спаць спакойна?

### У НАСТАЎНІКАХ—ЯПОНЦЫ

**ГОМЕЛЬ. (У. Пернікаў). У абласным цэнтры радыяцыйнай медыцыны пачалася вучоба, якую праводзіць група японскіх спецыялістаў на чале з прафесарам-гематолагам НДІ ядзернай медыцыны і біялогіі універсітэта горада Хірасімы Фуміо Іманакі.**

Яны абучаюць наш персанал рабоце на адной з пяці перасовачных дыягнастычных установак, якія дабрачынны фонд аховы здароўя імя Сасакава ў сувязі з аварыяй на ЧАЭС перадаў Савецкаму Саюзу. Неўзабаве на ўстаноўцы-мікрааўтобусе (каштуе 850 тысяч долараў), начыненым самай сучаснай электронікай, пачнецца абследаванне дзяцей. Праз два-тры месяцы такую ж магчымасць будуць мець і дарослыя: Японія абяцае прыслаць адпаведную ўстаноўку.

У канцы чэрвеня ў Гомель прыедуць працаваць японскія эндакрынолагі і гематолагі. Фонд імя Сасакава бярэцца бясплатна дапамагаць абласному цэнтру радыяцыйнай медыцыны на працягу пяці гадоў.

### ЧЫЙ СКАКУН ЛЕПШЫ

**НАВАГРУДСКІ РАЁН. (А. Дук). На працягу ўсяго мінулага тыдня ў мясцовым калгасе «Камунар» упершыню праводзіліся ўсесаюзныя выпрабаванні коней спартыўных верхавых парод. Ужо некалькі гадоў у калгасе сур'ёзна займаюцца спартыўнай конегадоўляй.**

З самых розных рэгіёнаў краіны прыехалі ў вёску Валосаўка, дзе праводзіліся агледзіны, прадстаўнікі вядомых конезаводаў. Цудоўнае відовішча з удзелам спартсменаў і гарманічных, разумных жывёлін не пакінула абыякавымі шматлікіх гледачоў.

### ВЫКЛІКАЎШЫ АГОНЬ, АД АГНЮ І ЗАГІНЕ?

**КАЛІНКАВІЧЫ. (У. Пернікаў). У мінулую нядзелю ў міліцыю пазваніла рабочая гархарчпрамгандлю В. Свірыдава і папрасіла дапамогі. Яе былы муж, рабочы мэблевага камбіната, І. Свірыдаў, наглытаўшыся спіртнога, учыніў скандал, абліў бензінам дом і пагражаў падпаліць яго.**

На месца тут жа выехала аператыўная група, члены якой кінуліся ратаваць людзей і рэчы, але дом ужо ахапіла полымя. Памочнік дзяжурнага старшына М. Кавалькоў вывеў з хаты гаспадыню і яе сына, васьмікласніка Віталя, і тут раптам раздаўся аглушальны выбух: узарваўся газавы балон. Вадзіцеля старшага сяржанта М. Бойку выкінула праз акно, Віталя, яго маці і суседку Н. Стрэльчанку, якая зайшла на скандал, абдало агнём, і яны дастаўлены ў бальніцу. Капітан М. Піліпец і І. Свірыдаў загінулі. Такі сумны фінал п'янкі.

### «СМАРГОНСКІ КІРМАШ»

**СМАРГОНЬ. Вялікай падзеяй у жыцці горада з'явілася правядзенне «Смаргонскага кірмашу». Святочны настрой, купля-продаж, масавыя гульні, атракцыёны, балаганы, забавы — усё гэта прысутнічала там. Сваю прадукцыю прадставілі, бадай, усе прадпрыемствы горада і раёна.**

Падоўгу затрымліваліся смаргонцы і госці горада ля выставак-продажаў Сольскага агароднінасушыльнага завода, лясгаса і ліцейнага завода. Вялікую цікавасць выклікала і прадукцыя агрэгатнага завода. У прыватнасці, мінітрактар «Смаргонец», прычэпы для легкавых аўтамабіляў і г. д. Прадавалі тут і аўтамабілі — «Жыгулі», «Масквічы», «Волгі». І хоць іх уладальнікі прапаноўвалі неверагодныя цэны, пакупнікі ўсё ж знаходзіліся.

Таксама праводзіўся аўкцыён. Так, за тысячу рублёў быў прададзены дрэваапрацоўчы станок, за 4 тысячы — набор мэблі «Ясельда», за 500 рублёў — пральная машына «Рыга-17М». А вось першапачатковы кошт «ВАЗ-2108» быў вызначаны ў суме 30 тысяч рублёў. Аднак сума імкліва расла і ў рэшце рэшт вядучы аўкцыёну аб'явіў, што аўтамабіль прададзены за 70 тысяч.

*ПРАЕКТ*

# Арганізацыйныя асновы дзейнасці Кампартыі Беларусі ў сучасных умовах

**Як паведамлялася ўжо ў друку, на сумесным пасяджэнні Пастаяннай камісіі ЦК КПБ па рабоце з пярвічнымі партарганізацыямі і партыйнымі камітэтамі і Пастаяннай камісіі Кантрольнай камісіі КПБ па кантролю за выкананнем праграмных дакументаў КПСС і КПБ, Статута КПСС, рашэнняў партыйных з'ездаў і канферэнцый разгледжаны і адобраны праект «Арганізацыйных асноў дзейнасці Кампартыі Беларусі ў сучасных умовах», які падрыхтаваны ў адпаведнасці з даручэннем XXXI з'езда Кампартыі Беларусі. Вырашана яго апублікаваць для азнаямлення камуністаў і ўнесці на абмеркаванне Пленума ЦК КПБ. Свае прапановы, заўвагі, рэдакцыйныя праўкі просьба накіроўваць у ЦК КПБ з паметкай: «Рабочай групе па праекту Арганізацыйных асноў».**

### СТАТУС КАМПАРТЫІ БЕЛАРУСІ

Камуністычная партыя Беларусі — палітычная арганізацыя, якая аб'ядноўвае на добраахвотных асновах грамадзян рэспублікі для рэалізацыі праграмных мэт, заснаваных на камуністычным ідэале, сацыялістычным выбары і прынцыпах сацыяльнай справядлівасці. Дзейнічаючы ў рамках Канстытуцыі БССР, на аснове савецкіх законаў, яна самастойна вырашае ідэалагічныя, унутрыпартыйныя, структурна-штатныя і кадравыя пытанні, праводзіць калектыўна выпрацаваную лінію ў сферы дзяржаўнага будаўніцтва, сацыяльна-эканамічнага і культурнага развіцця рэспублікі, фарміруе нацыянальную і інтэрнацыянальную свядомасць працоўных, ажыццяўляе фінансавую, гаспадарчую і выдавецкую дзейнасць.

Кампартыя Беларусі — састаўная частка палітычнай сістэмы рэспублікі. Сваёй асноўнай мэтай ставіць пабудову грамадства, якое забяспечыць высокі жыццёвы ўзровень працоўных, задавальненне іх матэрыяльных і духоўных запатрабаванняў на аснове развіцця прадукцыйных сіл, дэмакратыі, гуманізму і інтэрнацыяналізму, стварэнне суверэннай Беларускай сацыялістычнай дзяржавы ў саставе абноўленай федэрацыі Саюза ССР.

Кампартыя Беларусі абараняе інтарэсы рабочага класа, сялянства, інтэлігенцыі і іншых слаёў працоўных. Яна выступае за кансалідацыю ўсіх прагрэсіўных сіл, падтрымлівае развіццё нацыянальнай самасвядомасці, культурнай своеасаблівасці і сяброўскіх міжнацыянальных адносін насельніцтва, якое пражывае ў рэспубліцы, дабіваецца ўвасаблення сваіх мэт праз камуністаў, працуючых у дзяржаўных і гаспадарчых органах, грамадскіх арганізацыях, на прадпрыемствах і ва ўстановах.

КПБ з'яўляецца састаўной часткай Камуністычнай партыі Савецкага Саюза, кіруецца праграмнымі дакументамі і Статутам КПСС, удзельнічае ў фарміраванні стратэгічнага курсу і тактыкі КПСС праз сваіх прадстаўнікоў у яе выбарных органах. У той жа час Кампартыя Беларусі мае ўласныя праграму дзеянняў, арганізацыйныя асновы дзейнасці, іншыя нарматыўна-метадычныя дакументы, якія ўлічваюць нацыянальныя, тэрытарыяльныя, сацыяльныя і эканамічныя асаблівасці рэспублікі.

### ЧЛЕНСТВА Ў ПАРТЫІ

Члены КПСС, якія знаходзяцца на ўліку ў партыйных арганізацыях рэспублікі, з'яўляюцца членамі Кампартыі Беларусі. У Кампартыі Беларусі дзейнічае адзіны партыйны білет члена КПСС з указаннем прыналежнасці да КПБ. Член Кампартыі не павінен знаходзіцца ў іншых партыях, аднак можа ўдзельнічаць у рабоце грамадскіх арганізацый і рухаў, чыя дзейнасць будуецца ў адпаведнасці з Канстытуцыяй БССР і савецкімі законамі і не перашкаджае выкананню праграм КПБ і КПСС.

У тых калектывах, дзе няма пярвічных партыйных арганізацый, заява аб прыёме ў партыю разглядаецца на пасяджэннях бюро райкомаў, гаркомаў партыі.

У арганізацыях і камітэтах Кампартыі Беларусі ўлік камуністаў можа весціся адначасова і па месцы работы, і па месцы пражывання.

Членства ў партыі спыняецца пярвічнай партарганізацыяй за дзеянне і паводзіны, несумяшчальныя з патрабаваннямі Статута КПСС (выключэнне з партыі), а таксама па заяве члена партыі аб добраахвотным выхадзе з яе (выбыццё). Калі ў пярвічнай партарганізацыі нельга сабраць неабходнай колькасці камуністаў для вырашэння данага пытання, то яго вырашае бюро райкома, гаркома партыі або прэзідыум адпаведнай кантрольнай камісіі. Рашэнне аб накладанні партыйнага спагнання аж да выключэння з радоў КПСС можа прыняць любы вышэйстаячы партыйны орган **пасля папярэдняга разгляду ў пярвічнай партарганізацыі.**

### УНУТРЫПАРТЫЙНЫЯ АДНОСІНЫ

Унутрыпартыйныя адносіны будуюцца на:

— аснове ідэйнай агульнасці і партыйнай таварыскасці, якая спалучае ў сабе паважлівыя адносіны адзін да аднаго, добразычлівасць, прынцыповасць і цярпімасць;

— выбарнасці ўсіх партыйных органаў знізу даверху, справаздачнасці перад сваімі партыйнымі арганізацыямі, галоснасці, адкрытасці і калектыўнасці ў рабоце;

— павазе адрозненняў думак і платформ, якія не супярэчаць сацыялістычнаму выбару;

— адзінстве дзеянняў у правядзенні ў жыццё калектыўна выпрацаванай партыйнай палітыкі;

— абавязковасці выканання рашэнняў вышэйстаячага органа для ніжэйстаячага органа, рашэнняў пярвічнай партыйнай арганізацыі, што не супярэчаць Статуту і Праграме КПСС для камуністаў, якія знаходзяцца ў ёй на ўліку.

Кіруючыя (акрамя сходу), выканаўчыя і кантрольныя органы ў Кампартыі Беларусі выбарныя. Яны выбіраюцца па рашэнню камуністаў тайным або адкрытым галасаваннем. Кандыдатуры ў састаў вышэйстаячых органаў абмяркоўваюцца і рэкамендуюцца пярвічнымі партарганізацыямі, адпаведнымі выканаўчымі органамі. Аднак гэта не пазбаўляе членаў партыі права вылучаць кандыдатуры без абмежавання, у тым ліку і ўласную.

Дэлегаты на раённыя, гарадскія партыйныя канферэнцыі выбіраюцца непасрэдна ў пярвічных партыйных арганізацыях. Дэлегаты на абласныя партканферэнцыі, з'езд Кампартыі Беларусі выбіраюцца прамым галасаваннем па выбарчых партыйных акругах з ліку кандыдатаў, вылучаных у пярвічных партыйных арганізацыях гэтай выбарчай акругі або на канферэнцыях адпаведна раённых (гарадскіх) і абласных партыйных арганізацый. Дапускаецца вылучэнне і выбранне камуністаў, якія не знаходзяцца на ўліку ў гэтай партарганізацыі. Паўнамоцтвы дэлегатаў устанаўліваюцца на перыяд работы канферэнцыі, з'езда.

Сакратары пярвічных, цэхавых партыйных арганізацый, старшыні кантрольных (кантрольна-рэвізійных) камісій выбіраюцца на партыйных сходах (канферэнцыях) прамым тайным або, па рашэнню камуністаў, адкрытым галасаваннем. Першыя сакратары райкомаў, гаркомаў, абкомаў, ЦК Кампартыі Беларусі, старшыні адпаведных кантрольных камісій такім жа чынам — на канферэнцыях, з'ездах з адначасовым выбраннем членамі гэтых органаў, а сакратары, члены бюро партыйных камітэтаў, намеснікі старшыні і члены прэзідыума кантрольнай камісіі — на пленумах адпаведных партыйных камітэтаў і кантрольных камісій, калі канферэнцыі або з'езд не прымуць іншы парадак іх выбрання. У перыяд паміж канферэнцыямі і з'ездамі на адпаведных пленумах партыйных камітэтаў і кантрольных камісій могуць выбірацца ўсе сакратары і члены бюро партыйных камітэтаў і арганізацый, старшыні кантрольных камісій, іх намеснікі і члены прэзідыума. Пры неабходнасці, з улікам думкі партарганізацый, яны могуць быць кааптаваны ў састаў партыйных камітэтаў і кантрольных камісій.

Выканаўчыя і кантрольныя органы штогод робяць справаздачу аб сваёй дзейнасці на сходах камуністаў, партыйных канферэнцыях або пленумах партыйных камітэтаў, якія могуць прымаць рашэнні аб адстаўцы іх членаў (поўнасцю або часткова).

Любы камуніст можа выказваць свой пункт гледжання на партыйным сходзе, пасяджэнні бюро або парткома сваёй пярвічнай партыйнай арганізацыі, па яе даручэнню ўдзельнічаць у рабоце пленумаў, бюро ўсіх узроўняў. У сваю чаргу, члены выбарных партыйных органаў, работнікі іх апарату ўдзельнічаюць у рабоце сходаў, канферэнцый камуністаў, пасяджэнняў бюро партыйных камітэтаў ніжэйстаячых арганізацый.

З улікам грамадска-палітычнай абстаноўкі, стану і перспектыў сацыяльна-эканамічнага развіцця рэспублікі КПБ у межах сваёй кампетэнцыі ажыццяўляе кадравую палітыку, арганізуе падрыхтоўку і перападрыхтоўку партыйных работнікаў, забяспечвае іх перавучэнне і працаўладкаванне пасля заканчэння тэрміну паўнамоцтваў на партыйнай рабоце. Камітэты і арганізацыі КПБ рэкамендуюць найбольш падрыхтаваных камуністаў, здольных арганізатараў, якія праявілі ўменне працаваць з людзьмі, валодаюць адпаведнымі палітычнымі і ідэйна-маральнымі якасцямі, у дзяржаўныя і гаспадарчыя органы, грамадскія арганізацыі.

### ПЯРВІЧНЫЯ АРГАНІЗАЦЫІ КАМПАРТЫІ БЕЛАРУСІ

Пярвічныя партыйныя арганізацыі дзейнічаюць на аснове ідэйнай агульнасці і партыйнай таварыскасці, прынцыпаў дэмакратычнага цэнтралізму, свабоды дыскусій і самакіравання. Яны змагаюцца за маральную чысціню партыйных радоў, разглядаюць і ацэньваюць у выпадку неабходнасці дзеянні і ўчынкі любога члена сваёй арганізацыі, інфармуюць працоўныя калектывы, насельніцтва па месцы пражывання аб праводзімай імі рабоце.

Кіруючым органам пярвічнай партарганізацыі з'яўляецца агульны сход (канферэнцыя) камуністаў, які праводзіцца па меры неабходнасці, але не радзей аднаго разу ў тры месяцы (канферэнцыя — не радзей аднаго разу ў год), а ў малалікіх пярвічных і цэхавых партарганізацыях — не радзей аднаго разу ў два месяцы. Сход (канферэнцыя) можа склікацца таксама і ў тым выпадку, калі гэтага патрабуе не менш чвэрці саставу арганізацыі або больш трэці цэхавых партарганізацый. Канферэнцыя камуністаў пярвічнай партарганізацыі склікаецца па рашэнню парткома, калі ў ім на ўліку знаходзіцца не менш як 200 членаў КПСС.

Кожная пярвічная партарганізацыя самастойная ва ўладкаванні свайго жыцця і дзейнасці. Сваю работу ў працоўным калектыве яна можа будаваць на аснове дагавора з адміністрацыяй. Сакратар партыйнай арганізацыі прадстаўляе яе ў дзелавых адносінах з адміністрацыяй, органамі самакіравання, грамадскімі, палітычнымі арганізацыямі і рухамі.

### РАЁННЫЯ, ГАРАДСКІЯ, АБЛАСНЫЯ АРГАНІЗАЦЫІ КАМПАРТЫІ БЕЛАРУСІ

Раённыя (гарадскія), абласныя партыйныя арганізацыі распрацоўваюць праграму вырашэння палітычных, ідэалагічных, сацыяльна-эканамічных, нацыянальна-культурных, экалагічных праблем на сваёй тэрыторыі, разглядаюць іх на сваіх канферэнцыях, пленумах, выносяць на абмеркаванне шырокай грамадскасці, дзяржаўных органаў, дабіваюцца іх рэалізацыі, вырашаюць пытанні ўнутрыпартыйнага жыцця, кадравай работы, свайго бюджэту, выдавецкай і іншай гаспадарчай дзейнасці.

Састаў райкома, гаркома партыі, кантрольнай камісіі фарміруецца шляхам выбару іх членаў у пярвічных партыйных арганізацыях згодна з устаноўленай пленумам адпаведнага партыйнага камітэта квотай і зацвярджаецца затым на справаздачна - выбарнай канферэнцыі тэрмінам на 5 гадоў. Гэта не выключае магчымасці выбрання членаў райкома, гаркома, кантрольнай камісіі непасрэдна на справаздачна-выбарнай партыйнай канферэнцыі.

Састаў абласных камітэтаў партыі і кантрольных камісій абласных партарганізацый выбіраецца на абласных партыйных канферэнцыях тэрмінам на 5 гадоў з ліку кандыдатур, рэкамендаваных пярвічнымі партарганізацыямі і разгледжаных раённымі (гарадскімі) партыйнымі канферэнцыямі. Іх састаў можа фарміравацца таксама шляхам прамога дэлегавання кандыдатур раённымі (гарадскімі) партыйнымі канферэнцыямі, а таксама канферэнцыямі пярвічных партарганізацый, парткомы якіх надзелены правамі райкома, па ўстаноўленай пленумам абкома квоце.

Абкомы выбіраюць на сваіх пленумах бюро, сакратарыяты, вызначаюць структуру абласной партарганізацыі, штаты свайго апарату. Бюро абкома КПБ можа прадастаўляць найбольш буйным пярвічным партарганізацыям правы райкома партыі ў пытаннях учоту членаў КПСС.

Пленумы раённых, гарадскіх, абласных камітэтаў партыі праводзяцца не радзей аднаго разу ў чатыры месяцы.

### ВЫШЭЙШЫЯ ОРГАНЫ КАМПАРТЫІ БЕЛАРУСІ

Вышэйшым органам Кампартыі Беларусі з'яўляецца з'езд. Чарговыя з'езды склікаюцца не радзей аднаго разу ў пяць гадоў.

Рашэнне ЦК КПБ аб скліканні з'езда, тэрмінах яго правядзення, парадку дня і норме прадстаўніцтва публікуецца не пазней чым за тры месяцы да з'езда. Не менш чым за два месяцы да з'езда публікуюцца тэзісы па асноўных пытаннях парадку дня.

Нечарговы з'езд склікаецца Цэнтральным Камітэтам па ўласнай ініцыятыве, па прапанове Кантрольнай камісіі КПБ, або па патрабаванню дзвюх абласных або адной трэці раённых і гарадскіх партыйных арганізацый, або па патрабаванню пярвічных партыйных арганізацый, якія аб'ядноўваюць не менш адной трэці агульнай колькасці камуністаў. З'езд склікаецца ў двухмесячны тэрмін і лічыцца правамоцным, калі выбраныя на яго дэлегаты прадстаўляюць больш як палавіну саставу Кампартыі Беларусі, а таксама яе абласных, гарадскіх і раённых арганізацый.

З'езд Кампартыі Беларусі:

— заслухоўвае справаздачы і даклады Цэнтральнага Камітэта і Кантрольнай камісіі, пры неабходнасці па рашэнню дэлегатаў — іншых органаў, членаў Бюро і сакратароў ЦК КПБ, прымае па іх пастановы або рэзалюцыі;

— прымае праграмныя і нарматыўныя дакументы, пераглядае і ўносіць змяненні ў іх, уносіць прапановы па змяненню адпаведных дакументаў КПСС;

— вызначае лінію Кампартыі Беларусі ў галіне партыйнага будаўніцтва, ідэалагічнай дзейнасці, унутранай і знешняй палітыкі;

— выбірае Цэнтральны Камітэт і Кантрольную камісію КПБ, якія могуць таксама фарміравацца шляхам прамога дэлегавання ад абласных партыйных арганізацый па ўстаноўленай Пленумам ЦК квоце;

— разглядае і вызначае галоўныя напрамкі партыйнага бюджэту;

— выбірае першага сакратара ЦК Кампартыі Беларусі, адначасова выбіраючы яго членам ЦК, членам Бюро ЦК партыі, і дэлегуе яго ў састаў Палітбюро ЦК КПСС;

— выбірае сакратароў ЦК Кампартыі Беларусі, адначасова выбіраючы іх членамі ЦК і членамі Бюро ЦК КПБ. Выбары сакратароў ЦК па рашэнню з'езда можа праводзіць і пленум;

— выбірае старшыню Кантрольнай камісіі КПБ, адначасова выбіраючы яго членам Кантрольнай камісіі і членам яе прэзідыума;

— разглядае кандыдатуры ад Кампартыі Беларусі ў састаў вышэйшых органаў КПСС.

У перыяд паміж з'ездамі ЦК КПБ склікае па меры неабходнасці рэспубліканскую партыйную канферэнцыю для абмеркавання наспеўшых пытанняў палітыкі і практычнай дзейнасці партыі.

Канферэнцыя правамоцная заслухоўваць справаздачы ЦК і КК КПБ, часткова абнаўляць іх састаў (або прымаць адстаўку поўнасцю), прымаць іншыя абавязковыя для партыі рашэнні ў рамках праграмных і нарматыўных дакументаў, уносіць змяненні ў іх.

У перыяд паміж з'ездамі і канферэнцыямі работу Кампартыі Беларусі арганізуе Цэнтральны Камітэт, які:

— з'яўляецца палітычным і каардынуючым цэнтрам па ажыццяўленню рашэнняў з'ездаў і канферэнцый КПСС і Кампартыі Беларусі;

— стварае ўстановы, прадпрыемствы, газеты, часопісы, тэлерадыёстудыі партыі, кіруе іх дзейнасцю;

— распрацоўвае і ў парадку заканадаўчай ініцыятывы ўносіць на сесіі Вярхоўнага Савета БССР прапановы па асноўных напрамках унутранай і знешняй палітыкі;

— накіроўвае дзейнасць камуністычных фракцый (партыйных груп) у рэспубліканскіх прадстаўнічых органах;

— выпрацоўвае і ажыццяўляе кадравую палітыку КПБ;

— выбірае галоўных рэдактараў партыйных выданняў;

— вызначае функцыі і колькасць апарату ЦК;

— прадстаўляе Кампартыю Беларусі ва ўзаемаадносінах з іншымі партыямі, грамадскімі арганізацыямі і рухамі, партыйнымі і дзяржаўнымі органамі Саюза ССР, зарубежных краін.

Для вырашэння палітычных і арганізацыйных пытанняў у перыяд паміж пленумамі Цэнтральны Камітэт КПБ выбірае са свайго саставу Бюро. Яго колькасны састаў вызначае пленум ЦК. Бюро каардынуе дзейнасць камісій ЦК, арганізуе выкананне рашэнняў з'езда, рэспубліканскіх партканферэнцый, пленумаў Цэнтральнага Камітэта. Яно штогод робіць справаздачу на пленуме ЦК КПБ аб сваёй дзейнасці. Бюро ЦК накіроўвае пастановы для выканання ў партыйныя арганізацыі ад свайго імя. Рашэнні па найбольш важных палітычных пытаннях Бюро выносіць на абмеркаванне пярвічных партарганізацый і наступнае зацвярджэнне пленума ЦК КПБ.

Цэнтральны Камітэт фарміруе сакратарыят ЦК КПБ, які арганізуе выкананне партыйных рашэнняў, накіроўвае работу апарату ЦК.

У ЦК Кампартыі Беларусі ствараюцца пастаянныя камісіі па асноўных напрамках дзейнасці партыі. Яны ўтвараюцца на пленуме ЦК з ліку яго членаў, а таксама іншых камуністаў, зацвярджаемых у якасці саветнікаў.

Кантрольная камісія Кампартыі Беларусі ў сваёй дзейнасці кіруецца палажэннем аб камісіі, зацверджаным з'ездам КПБ.

ЦК і КК партыі праводзяць не менш двух пленарных пасяджэнняў у год, а пры неабходнасці — сумесныя пасяджэнні.

(Заканчэнне на 2-й стар.).

## *На тэмы дня*

### Уласнасць, але не ўсіх

Мы не можам спакойна глядзець і чуць, як абліваюць брудам нас, камуністаў. Можна мець розныя погляды, па рознаму адносіцца да нашай гісторыі, але ці можна абражаць мільёны сумленных працаўнікоў, якія звязалі сваё жыццё з партыяй?

У нашай партарганізацыі, а мы ўпэўнены, што і ва ўсіх пярвічных партыйных арганізацыях, мы, камуністы, папаўнялі свае рады толькі з лепшых сваіх таварышаў. Тых, хто добра працаваў на вытворчасці, быў актывістам у грамадскіх справах, прыкладным у паводзінах на рабоце і ў быце. Нам не дазваляла партыйнае сумленне прыняць у свае рады прагульшчыка, п'яніцу, гультая. Таму лепшая частка рабочых і служачых нашага саўгаса — гэта камуністы. Іх на ўліку 90 чалавек.

Усе мы добрасумленна плацілі партыйныя ўзносы, тым самым папаўнялі партыйную касу, уносілі свой уклад у стварэнне матэрыяльнай базы партыі.

Цяпер нам крыўдна, што тыя, хто па некаторых вядомых нам прычынах не сталі камуністамі, аплёўваюць нашу партыю і патрабуюць адняць яе ўласнасць. На якой падставе мы павінны раздаць сваю ўласнасць, набытую дзесяткамі гадоў?

Таму мы звяртаемся праз вашу газету да народных дэпутатаў БССР аб немэтазгоднасці разгляду пытання аб уласнасці КПСС на сесіі Вярхоўнага Савета БССР.

**По даручэнню партыйнай арганізацыі ў саставе 90 чал. члены парткома саўгаса імя Леніна Лоеўскага раёна Гомельскай вобласці: ПЯТРОЎ Г., ЧАРНУШЭВІЧ І., ВАШЧАНКА Н., ЛІТВІНАЎ А., ВЫГЛЯД Д., ЧАРНУШЭВІЧ А., КУДЗІНАЎ А.**

### Шлях насілля непрыгодны

Я ні ў якой партыі не лічуся, але паспрабую сказаць некалькі слоў наконт партыйных спраў.

Мы будуем прававую дзяржаву. У ёй кожны павінен мець свае правы, кожны можа выказваць уласныя думкі, асабліва на мітынгу. Што ж назіраецца ў нас? Першы сакратар ГК КПБ В. Казлоў не змог нармальна выказаць свае меркаванні на гарадскім мітынгу. Яго выступленне неаднаразова перапынялася свістам і выкрыкамі...

Хтосьці з выступаючых кінуў у натоўп знаёмыя словы аб тым, каб перадаць будынак гаркома дзецям пад Дом піянераў... Дазвольце з гэтым не згадзіцца, і вось чаму. Па-першае, на пераўладкаванне гаркома патрэбны грошы. Па-другое, ці не процiпраўным будзе адыманне маёмасці, на ўзвядзенне якой адлічвалі сродкі са свайго заробку не ўсе жыхары горада? Камуністы, і толькі яны, маюць права вырашаць — перадаць будынак гаркома КПБ дзіцячай установе ці не.

А давайце ўявім сабе такі малюнак. З'явіцца яшчэ адна ці некалькі партый, якія будуць узначальваць наш урад на кааліцыйнай аснове. Дапусцяць яны адну ці некалькі памылак, без якіх не абысціся нікому, дык што ж тады: нацыяналізоўваць маёмасць і гэтых партый?

Не, так можна працягваць бясконца. Бо новыя партыі з'яўляцца будуць і будуць мець свае сродкі. Не ўсе з іх дагодзяць народу. Ды ўсім і не дагодзіш. Як кажуць палякі: «Ешчэ тэн не народзіл, жэбы вшысткім догодзіл». І гэта чыстая праўда. Шлях насілля для ўладкавання нашага далейшага жыцця непрыгодны. І так думаюць многія, каго я ведаю.

**А. ГЯМБІЦКІ.**

г. Ліда.

ЧАС ПАДПІСАННЯ У ДРУК: ПА ГРАФІКУ 21.05, НУМАР ПАДПІСАНЫ У 21.05.

# АПОШНЯЯ ІНФАРМАЦЫЯ АД 18 ДА 18 СУТАК

## УСЕ РАБОТЫ ДОБРЫЯ

МАГІЛЁЎ. Упершыню гарвыканкам прыняў план працаўладкавання моладзі, якая скончыла школу ў 1991 годзе, і тых, хто яшчэ вучыцца, на час школьных канікулаў. Па гэтаму плану кожнае прадпрыемства горада абавязана прыняць пэўную колькасць беспрацоўнай моладзі на свае вытворчасці. Дзяўчаты і юнакі павінны быць задаволены — у іх з'явілася магчымасць самім і зусім афіцыяльна зарабляць на «кішэнныя» і больш буйныя расходы.

## МЭБЛЯ—ТАВАР ДЭФІЦЫТНЫ

**СВЕТЛАГОРСК (У. Кохна). Пры мясцовым упраўленні буравых работ арганізаваны ўчастак па вытворчасці мяккай мэблі. Ужо выпушчана першая партыя дэфіцытнай прадукцыі — некалькі ўтульных, прыгожа афармленых мяккіх «куткоў».**

Пакуль што магчымасці міні-цэха не надта вялікія: 25—30 камплектаў мэблі ў месяц. Але ўжо цяпер прадпрымальныя работнікі ўчастка, які ўзначальвае былы сакратар камітэта камсамола ўпраўлення М. Нічыпарук, клапоцяцца аб тым, каб пашырыць вытворчасць такой неабходнай і вельмі прыбытковай прадукцыі. Дарэчы, цана аднаго камплекта складае 1600—1700 рублёў.

## ЯК ЗАКОН ВЫКОНВАЕЦЦА

**ГРОДНА. (А. Дук). Пасля працяглага перапынку, звязанага з рэстаўрацыйнымі работамі, зноў прыняў прыхаджан адзін са старажытных у горадзе сабораў — Брыгіцкі каталіцкі храм. Спачатку меркавалася ў ім адкрыць канцэртна-выставачную залу, але па просьбе веруючых ён перададзены па свайму непасрэднаму прызначэнню.**

Крыху раней веруючыя атрымалі Каложскую царкву — помнік архітэктуры XII стагоддзя, у новай якасці стаў служыць і комплекс будынкаў Бернардынскага манастыра, дзе адкрылася духоўная семінарыя.

Усяго ж за апошнія два гады на Гродзеншчыне ўтварылася каля ста новых прыходаў, зараз тут дзейнічае звыш 250 розных рэлігійных аб'яднанняў, у тым ліку адзіная на Беларусі мусульманская мячэць, а таксама пратэстанцкіх, пяцідзесятнікаў, адвентыстаў сёмага дня.

Як бачым, прыняты нядаўна закон аб рэлігійных аб'яднаннях выконваецца спраўна. Іншыя б так.

## ПАКУЛЬ ВАРТАЎНІК СПІЦЬ...

**ПІНСК. (У. Равіцкі). У мінулым годзе ў раёне быў створаны фонд «Правапарадак», куды многія прамысловыя прадпрыемствы і калгасы пералічваюць немалыя сродкі на ўмацаванне матэрыяльна-тэхнічнай базы раённай міліцыі. У выніку колькасць яе ўзрасла на 50 чалавек, гэта дазволіла павялічыць штат участковых упаўнаважаных і наладзіць начное патруляванне на дарогах і вясковых вуліцах. Крымінагенная абстаноўка значна палепшала: рост злачыннасці прыпыніўся, а колькасць цяжкіх злачынстваў знізілася.**

Аднак у самы апошні час прыкметна вырасла колькасць крадзяжоў дзяржаўнай і калгаснай маёмасці—у параўнанні з мінулым годам ажно на 50 працэнтаў. Работнікі міліцыі звязваюць гэта напрамую з павышэннем цэн. Крадзеж каровы або парсюка з фермы дае цяпер неблагія барышы. А ўвогуле, крадуць усё, што дрэнна ляжыць. У калгасе «Звязда», напрыклад, закупілі нядаўна розных хадавых тавараў на дзесяткі тысяч рублёў і склалі ўсё гэта ў старым памяшканні. У адну з нядаўніх начэй туды наведаліся зладзеі і вынеслі тавару на паўтары тысячы.

Са склада калгаса імя Горкага вынеслі вялікі рулон дэфіцытнай плёнкі, а ў калгасе «Праца» пасля наведання начных візіцёраў на машынным двары засталіся разукамплектаванымі чатыры машыны.

Між іншым, на ўсіх гэтых аб'ектах ёсць начныя вартаўнікі. Аднак ці можа пенсіянер напалохаць сённяшняга жуліка? Самому б уцалець. Яўна пара гаспадарнікам мяняць існуючую сістэму аховы дзяржаўнай і калгаснай маёмасці. Адной міліцыі з ўсё нарастаючым валам крадзяжоў справіцца не пад сілу.

## ЖЫВІ, «ЖЫВІЦА»!

**ЧАЧЭРСК. (У. Пернікаў). У раёне закончыўся фальклорна-этнаграфічны фестываль «Жывіца», мэта якога — вяртанне старых забытых традыцый і абрадаў, перадача ў спадчыну нашчадкам мясцовых песень, танцаў, рамяства і г. д.**

Фестываль прайшоў адначасова на мажорнай і мінорнай нотах. З аднаго боку, пашырылася колькасць фальклорных і этнаграфічных ансамбляў, якія бліснулі сваім выканаўчым майстэрствам, з другога — некаторыя з іх пачалі распадацца ў сувязі з тым, што з раёна ў выніку чарнобыльскай катастрофы адселена ўжо 47 вёсак.

— Каб назаўсёды не страціць непаўторную прыгажосць мясцовага фальклору, — расказвае загадчык аддзела культуры райвыканкома П. Несцяровіч, — мы заключылі дагавор з мінскім малым прадпрыемствам «Артфільматэхнік», які стварыў ужо тры відэастужкі, прысвечаныя народным традыцыям раёна. Іх дэманструем у кінатэатрах, клубах, дамах культуры. Народная творчасць павінна жыць.

## Тайм-аўт

### ● САМБА

Першыя паядынкі сярод жанчын на турніры X летняй Спартакіяды народаў СССР, які праходзіць зараз у Мінску,— прынеслі першыя сюрпрызы. Нечакана для многіх чэмпіёнкай СССР у катэгорыі да 44 кг стала 37-гадовая Вера Клімянок з каманды Беларусі. Гэта першы вялікі поспех яе, яшчэ і майстра спорту па гімнастыцы і акрабатыцы.

### ● ЦЯЖКАЯ АТЛЕТЫКА

У германскім горадзе Брэмене закончыўся турнір «Кубак Балтыкі». Заслужаны майстар спорту Леанід Тараненка, які некалькі дзён таму стаў чэмпіёнам Еўропы, атрымаў перамогу і ў гэтых спаборніцтвах, набраўшы ў суме двух практыкаванняў 432,5 кг (192,5 і 240).

### ● СУЧАСНАЕ ПЯЦІБОР'Е

Закончыўся адкрыты чэмпіянат СССР па гэтаму віду спорту. Першае месца заняў Аляксандр Барысенка з Гомеля (5454 ачкі).

### ● АДЗІН — СУПРАЦЬ ПУСТЫНІ

35-гадовы спартыўны ўрач, выпускнік Беларускага інстытута фізкультуры і аддзялення спартыўнай медыцыны Тартускага універсітэта Аляксандр Барысаў з горада Барысава 16 чэрвеня адпраўляецца з Мары ў аўтаномны пераход адразу праз дзве пустыні — Каракумы і Кызылкум. Каля тысячы кіламетраў пройдзе адважны падарожнік.

Мэта пераходу — вывучэнне чалавечых магчымасцей, навуковыя даследаванні. Фініш чакаецца праз месяц у Кзыл-Ардзе.

Выпуск падрыхтавалі: У. ГОЙТАН, І. КАРНЕЙ, С. СУЛКОЎСКІ, А. СЛАНЕЎСКІ, А. КОКТЫШ.
Нашы тэлефоны: 32-44-02, 32-60-13, 32-31-98.

# НЯДЗЕЙНЫЯ АСОБЫ ТРАГЕДЫІ

**Да пяцігоддзя чарнобыльскай катастрофы саюзны і рэспубліканскі парламенты прынялі, нарэшце, законы аб сацыяльнай абароне грамадзян, якія пацярпелі ад аварыі на ЧАЭС. Людзі ажылі духам: нарэшце ім дапамогуць і з перасяленнем, і з лячэннем. Але вось настала лета, а аздаравіцца насельніцтву забруджаных раёнаў па-ранейшаму цяжка. Можна нават гаварыць аб зрыве летняй кампаніі па ахове здароўя чарнобыльцаў. Аб прычынах узнікшай сітуацыі карэспандэнт БЕЛТА гутарыць са старшынёй Пастаяннай камісіі савета Усеагульнай канфедэрацыі прафсаюзаў СССР па пытаннях чарнобыльскай катастрофы, першым намеснікам старшыні Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі Мікалаем Рошам.**

## Актуальнае інтэрв'ю

**— Парламенты прымаюць законы — выконваць іх павінны ўрады. Дык чаму ж не яны, а прафсаюзы сталі галоўнай дзеючай асобай гэтай дзяржаўнай праграмы?**

— Актыўнага ўдзелу прафсаюзаў запатрабаваў праведзены восенню мінулага года XIX з'езд, што і запісана ў яго пастанове. Выконваючы рашэнні з'езда, пленум УКП утварыў пастаянную камісію, якую я ўзначальваю.

Цяпер работа пачалася. З нашым удзелам ішла падрыхтоўка законаў па Чарнобылю. Іменна па патрабаванню прафсаюзаў там вызначаны таксама статус грамадзян, якія пражываюць у раёнах з радыяцыйнай забруджанасцю ад аднаго да пяці кюры. І вось законы прыняты, ільготы вызначаны. Але яны не пацверджаны матэрыяльна. У гэтым галоўная цяжкасць. Мы неаднаразова звярталіся да Прэзідэнта краіны па пытаннях фінансавання летняй аздараўленчай кампаніі, а пытанне не вырашаецца. У лютым была сустрэча М С. Гарбачова з прафсаюзным актывам, на якой я далажыў аб усіх складанасцях чарнобыльцаў. А літаральна на наступны дзень яшчэ і накіраваў пісьмо Міхаілу Сяргеевічу з прапановай узяць пад прэзідэнцкі кантроль ліквідацыю вынікаў катастрофы на ЧАЭС і стварэнне ў краіне адзінай сістэмы аздараўлення пацярпеўшых.

**— Які адказ?**

— Па майму пісьму зроблена даручэнне ўраду, і там яно да гэтага часу разглядаецца. Быў я і ў намесніка прэм'ер-міністра Дагужыева. Ён запэўніў, што абавязкова вырашыць пытанне фінансавання цяперашняй аздараўленчай кампаніі. А ці будзе гэта банкаўскі крэдыт, або мы атрымаем грошы з рэзерву Прэзідэнта — ужо дэталі...

З красавіка па гэтых «дэталях» ідуць штодзённыя перагаворы, удакладняюцца лічбы. Спыніліся на тым, што неабходна затраціць на аздараўленне чарнобыльцаў 2,4 мільярда рублёў. Вырашылі, што 800 мільёнаў тэрмінова выдзяляе ўрад і столькі ж прафсаюзы. З астатнімі грашамі разбяромся потым: важна не прапусціць час для набыцця пуцёвак. Усё запратакаліравалі, узаконілі. А пазней аказалася, што ва ўрада абяцаных сродкаў няма, ёсць толькі 400 мільёнаў, ды і тыя павіслі ў паветры.

**— Дык ні рубля ад дзяржавы на праграму здароўя і не атрымана?**

— На жаль, не. Цяпер прапануецца іншы варыянт: узяць грошы з тых пяці мільярдаў рублёў, што недададзены прафсаюзам на дадатковыя расходы, звязаныя з павышэннем цэн. Значыць, зноў пойдзе перапіска з Мінфінам, кручкатворства, якое можа працягнуцца да восені... А сезон водпускаў пачаўся ўжо. Не маючы рэальных грошай, можна са шкадаваннем гаварыць, што аздараўленчая кампанія, нягледзячы на велізарныя намаганні прафсаюзаў, сарвана.

**— Мікалай Іванавіч, а як справы з аздараўленнем людзей у нашай рэспубліцы? Ёсць інфармацыя, што Савет Міністраў БССР распарадзіўся выдзеліць Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі на набыццё пуцёвак для дзяцей, якія пражываюць у забруджанай зоне, пазыку — 150 мільёнаў рублёў са сродкаў Чарнобыльскага фонду.**

— Гэтыя грошы нам дадзены Саўмінам у крэдыт з пагашэннем яго да 1 кастрычніка бягучага года. Дзіўная, аднак, у сувязі з гэтым сітуацыя атрымліваецца. Не прафсаюзы ж, а менавіта ўрад павінен забяспечыць выкананне прынятага Вярхоўным Саветам рэспублікі закона «Аб сацыяльнай абароне грамадзян, якія пацярпелі ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС». І вырашыўшы ўсе фінансавыя пытанні, сказаць нам: прадайце вось столькі пуцёвак для ахвяр аварыі. На справе ўсё наадварот: мы звярнуліся да ўрада з просьбай, і я ўпэўнены, што нават гэтай колькасці — 150 мільёнаў (а на праграму неабходна, паводле самых скромных падлікаў, амаль 700) — не знайшлося б, калі б не ўмяшаўся сам В. Кебіч. Вось і выходзіць, што дакументаў прынята даволі шмат, а падманутыя ў сваіх спадзяваннях людзі, бадай, упершыню за пяць чарнобыльскіх гадоў, не змогуць сёлета папраўіць здароўе. Лічу вінОўнікамі правалу аздараўленчай кампаніі ўсіх высокіх службовых асоб дзяржавы, якія бяздзейнічаюць да гэтага часу.

**Запісала Валянціна МЕНШЫКАВА, кар. БЕЛТА.**

## Пісьмо ў ААН

Старшыня Савета Міністраў Беларускай ССР В. Ф. Кебіч звярнуўся да адміністратара праграмы развіцця ААН (ПРААН) з прапановай разгледзець пытанне аб аказанні рэспубліцы тэхнічнай і іншай спецыялізаванай дапамогі, улічваючы беспрэцэдэнтны характар бедства і надзвычайную для здароўя насельніцтва сітуацыю, якая ўзнікла ў выніку працяглага ўздзеяння радыяцыі. Пра гэта гаворыцца ў пісьме кіраўніка ўрада БССР праходзячай у штаб-кватэры ААН 38-й сесіі савета кіраўнікоў ПРААН.

Чым больш аддаляе нас час ад чарнобыльскай трагедыі, піша В. Ф. Кебіч, тым больш усведамляецца яе катастрафічны характар і беспрэцэдэнтнасць маштабаў вынікаў. На долю Беларускай ССР прыйшлося больш як 70 працэнтаў радыеактыўных выпаданняў. Звыш 22 працэнтаў яе тэрыторыі забруджана радыенуклідамі, а 2,2 мільёна чалавек — кожны пяты жыхар рэспублікі — аказаліся ў зоне працяглага дзеяння антрапагеннай радыяцыі. Эканамічны ўрон, нанесены Беларусі ў выніку аварыі, складае звыш 100 мільярдаў рублёў, або больш як 10 гадавых бягучых нацыянальных бюджэтаў.

Высока ацэньваючы прыняцце на 45-й сесіі Генеральнай Асамблеі рэзалюцыі аб міжнародным супрацоўніцтве ў справе змякчэння і пераадолення вынікаў аварыі, а таксама пачатак распрацоўкі праграмы каардынацыі дзейнасці, якая будзе ажыццяўляцца органамі сістэмы ААН, кіраўнік беларускага ўрада выказаў перакананне ў тым, што гэтыя намаганні не могуць быць паспяховымі без удзелу ПРААН. Праз пяць гадоў, што мінулі пасля аварыі, відавочнай з'яўляецца неабходнасць сумесных намаганняў сусветнага супольніцтва для пераадолення вынікаў Чарнобыля — буйнейшай аварыі сучаснасці, падкрэсліваецца ў пісьме, якое распаўсюджана ў якасці афіцыяльнага дакумента сесіі савета кіраўнікоў праграмы развіцця ААН.

(ТАСС).

# Чакаем новую Канстытуцыю

**Якім быць новаму асноўнаму закону нашай рэспублікі? Гэта пытанне дэбаціравалася на праведзеным 10 чэрвеня пасяджэнні Канстытуцыйнай камісіі, якое вёў Старшыня Вярхоўнага Савета БССР Мікалай Дзямянцей.**

Праект Канстытуцыі, як вядома, рыхтавалі дзве групы: адной кіруе намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета БССР Васіль Шаладонаў, другой — народны дэпутат Віктар Ганчар. Але на гэты раз абмяркоўваўся толькі адзін варыянт: па абсалютнай большасці спрэчных момантаў распрацоўшчыкі дасягнулі кансенсусу. З сур'ёзных праблем засталася пакуль нявырашанай па сутнасці толькі адна — чыя гэта будзе Канстытуцыя? Тут думкі прысутных, акрамя членаў камісіі ў пасяджэнні ўдзельнічалі некаторыя народныя дэпутаты БССР, эксперты, раздзяліліся. У выніку з'явіліся чатыры пункты гледжання: Канстытуцыя Беларускай Савецкай суверэннай Рэспублікі, Рэспублікі Беларусь, Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі і проста Канстытуцыя Беларусі.

Валянцін Голубеў, Яўген Глушкевіч, іншыя ўдзельнікі дыскусіі выказалі розныя пункты гледжання. Здаецца, што канчатковае слова наконт гэтага скажа Вярхоўны Савет БССР.

— Калі гэта адбудзецца? — задаю пытанне Васілю Шаладонаву.

— Мне думаецца, што мы блізімся да фінішу. Мяркую, што ўжо восенню праект асноўнага закона будзе вынесены на пленарнае пасяджэнне Вярхоўнага Савета рэспублікі.

І яшчэ пытанне: па абстаноўцы ў зале адчуваецца, што дзвюм рабочым групам удалося знайсці агульныя пункты гледжання. Ці так гэта на самай справе?

— Калі мы зверылі тэксты праектаў канстытуцыі абедзвюх груп, то высветлілася супадзенне па многіх падыходах. Сякія-такія адрозненні ёсць і цяпер. Але, на мой погляд, яны вырашальныя.

**У. ГЛОД.**

# Што ў падмурку?

## На сесіі Вярхоўнага Савета БССР

Так склаліся абставіны, што на ўчарашнім пасяджэнні сесіі дэпутаты абмяркоўвалі адразу два выключна важныя пытанні (хаця, ці ёсць яны — другарадныя, калі столькі хібаў маем ва ўсіх сферах нашага жыцця, у тым ліку і ў законатворчасці?). Размова ішла аб двух праектах — Закона аб дзяржаўнай маладзёжнай палітыцы ў БССР і Саюзнага дагавора. І такое супадзенне ўяўляецца глыбока сімвалічным: абодвум дакументам працаваць на наша заўтра. Не паклапаціўшыся пра маладых сваіх грамадзян, не заклаўшы надзейнага падмурку ў будучае іх жытло, ці можам спадзявацца і на сваё прыстойнае існаванне?

Што ж закладзена ў аснову новага для нас Закона аб моладзі? Усе, хто абмяркоўваў праект, былі салідарнымі ў галоўным: хопіць размоў, узнёслых слоў пра будучую змену, нашу надзею і г. д. Гэтым не дабіцца дабрабыту, умоў для самавыяўлення і, ў рэшце рэшт, для шчасця моладзі. Намеснік старшыні Камісіі па справах моладзі Анатоль Лебядзько, які прадстаўляў законапраект, арыгінальна, але вельмі дакладна праілюстраваў гэта, паказаўшы з трыбуны сесіі... курынае яйка. Колькі б ні квахталі мы над ім, колькі б ні замілоўваліся будучым кураняткам — яно не праклюнецца, пакуль не адчуе патрэбнай для нармальнага развіцця цеплыні. Ці знойдзецца ў дзяржавы запас энергіі, каб сагрэць, падтрымаць, даць моц крылам нашчадкаў?

Дэпутаты падкрэслівалі: так, праект прадугледжвае лагічна аб'яднаныя меры, што дазволяць вылучыць маладзёжную палітыку ў асобны напрамак дзейнасці дзяржавы. Да гэтай пары мы мелі безліч рашэнняў аб моладзі, раскіданых па розных законах і дакументах, а таму вельмі часта пакінутых без нагляду, без кантролю. Зараз гэта асабліва небяспечна — у час, калі мяняецца ўся наша сістэма гаспадарання, моладзь можа аказацца ў больш сумным становішчы, чым усе мы. Жыллё, дзеці, адукацыя, — для ўсіх нас гэта балючыя праблемы, але найперш — для моладзі. Менавіта тут завязваюцца найбольш тугія вузлы нашага жыцця.

Як развязаць іх? Дэпутаты Уладзімір Кудлаш, Яўген Шымчук, Аляксей Камай падкрэслівалі: важнай асаблівасцю праекта з'яўляецца тое, што ён не прадугледжвае стварэння для моладзі цяплічных умоў, а нацэлены на самарэалізацыю асобы, на стварэнне такой абстаноўкі, якая давала б магчымасць маладым сцвярджаць сябе, паўнацэнна развіваць свае здольнасці, творчы патэнцыял. Можна, гаварыў дэпутат Валерый Паўлаў, дакараць маладых за тое, што яны гандлююць дэфіцытам, скажам, на польскім базары. Але ці заглядваем мы ў корань праблемы? У былой ГДР, іншых краінах дзяржава выдае пры ўтварэнні маладых сем'яў салідныя сумы, істотна дапамагае пры нараджэнні дзіцяці. Мы ж вельмі часта спрабуем абмежавацца абяцанкамі там, дзе патрэбна канкрэтная дапамога. Між тым, заўважыў Міхаіл Жукоўскі, укладанне сродкаў грамадства ў моладзь — гэта ўкладанне ў сваё заўтра. Гэта самы надзейны від укладанняў. «Стане моладзь апорай грамадства ці яго дэстабілізуючай сілай, залежыць ад нас», — працягваў Анатоль Мардашоў.

Дэпутаты падкрэслівалі неабходнасць фарміравання міністэрства (камітэта) па справах моладзі.

Быў і іншы пункт погляду. На думку Мікалая Крыжаноўскага, не варта аддзяляць праблем моладзі ад іншых пытанняў, іначай не атрымаецца гарманічнага развіцця грамадства. Я не супраць гэтага закона, падкрэсліваў ён, але як раздзяліць праблемы маладосці і старасці, праблемы адукацыі, выхавання?

Нягледзячы на тое, што праект закона прыняты ў першым чытанні, дэпутаты выказалі шмат заўваг, прапаноў, якія канкрэтызуюць змест закона, робяць яго больш дакладным. Нам хочацца бачыць моладзь адукаванай, выхаванай, працалюбівай, гаварылі дэпутаты. Дык дапаможам жа ёй стаць такой.

Большую частку свайго рабочага дня дэпутаты прысвяцілі абмеркаванню праекта Саюзнага дагавора. Аб усіх перыпетыях гэтай падзеі газета раскажа ў наступным нумары.

**Л. РЫЖАНКОВА.**

## Планета: людзі і падзеі

### МАМА БЭБІ-БУМ



**Трыццацігадовай французжанцы Мары-Клод Адам пашчасціла стаць першай, і пакуль адзінай французжанкай, якая зрабіла своеасаблівы подзвіг: у яе нарадзілася адразу шэсць дзяцей. Да гэтай радаснай падзеі ў Мары-Клод ніколі не было дзяцей, а тут адразу янаператварылася ў мнагадзетную маці.**

**Адразу ж пасля нараджэння дзеці і маці ўзяты пад строгую апеку ўрачоў. Цяпер, калі прайшло амаль два з палавінай гады, дзеці адчуваюць сябе выдатна.**

**НА ЗДЫМКУ: Даніэль і Мары-Клод АДАМ са сваім шматлікім патомствам.**

### ІЗРАІЛЬ ГРАШАМ ВЕРЫЦЬ

ЛОНДАН. Для многіх імігрантаў з СССР мары аб шчаслівым жыцці ў Ізраілі абярнуліся існаваннем у палатачных гарадках і міской бясплатнага супа, прыгатаванага на паходнай кухні. Як паведаміла ў карэспандэнцыі з Іерусаліма агенцтва Рэйтэр, 26 былых савецкіх сем'яў, якім высокая плата за жыллё аказалася не па кішэні, вымушаны былі перасяліцца ў палаткі, разбітыя ў гарадку Карміель на поўначы Ізраіля. Большасць жыхароў лагера — былыя інжынеры, урачы і музыканты, якія сталі на «зямлі абетаванай» беспрацоўнымі.

Як падкрэслівае агенцтва, усяго ў Карміель перасялілася каля 5 тысяч былых савецкіх грамадзян, у выніку чаго колькасць яго насельніцтва вырасла да 28 тысяч чалавек.

### ЗБРОЯ НЕ РАСКОША!..

ВАШЫНГТОН. Кожную мінуту каля 2 мільёнаў долараў выдаткоўвалася на планеце на ваенныя мэты ў 1990 годзе. Такая ўражальная лічба прыводзіцца ў дакладзе некамерцыйнай арганізацыі «Уорлд прайарытыз», прадстаўленым у мінулую нядзелю ў амерыканскай сталіцы. Усяго ж, згодна з дакументам, за год ваенныя расходы ў свеце склалі каля 900 мільярдаў долараў.

Згодна з прыводзімай у дакуменце статыстыкай, колькасць рэгулярных армій у свеце складала 26 млн. чалавек і звыш таго 40 млн. чалавек з'яўляліся ваеннымі рэзервістамі. На планеце налічвалася 51 тыс. адзінак ядзернай зброі.

*(Па матэрыялах ТАСС).*

# Бяда вачамі дзяцей

Многія памятаюць, які моцны ўплыў на грамадскую свядомасць аказала правядзенне дзіцячай акцыі, калі літаральна ўсе школьнікі краіны адгукнуліся на боль і пакуты дзяцей Хірасімы і Нагасакі.

І вось падобная бяда напаткала Беларусь. Аварыя на ЧАЭС прынесла незлічоныя бедствы і пакуты. Менавіта таму, каб больш прыцягнуць увагу грамадскасці да вастрыні праблемы, Федэрацыя прафсаюзаў Беларусі прыняла пастанову аб правядзенні з сакавіка па верасень бягучага года рэспубліканскага конкурса дзіцячага малюнка «Чарнобыль вачамі дзяцей». У ім могуць прыняць удзел дзеці да 16 гадоў. На конкурс прымаюцца малюнкі на дванаццатым фармаце і шырэй, выкананыя як алоўкам, так і фарбамі. Могуць быць і кампілятыўныя сюжэты. Разам з малюнкам трэба паведаміць свае поўныя прозвішча, год нараджэння, паштовы адрас, сваю навучальную ўстанову і даць кароткую інфармацыю аб сабе. **Работы можна дасылаць па пошце або прыносіць па адрасу: 220126, г. Мінск, пр-т Машэрава, 21, савет Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі, аддзел па пытаннях чарнобыльскай катастрофы.**

Пераможцаў чакаюць тры першыя прэміі па 600 рублёў, пяць другіх — па 400 рублёў, пяць трэціх — па 200 рублёў і заахвочвальныя прэміі па 30 рублёў. Лепшыя малюнкі будуць дэманстравацца на замежных выстаўках.

# ТБМ: два гады пошуку

**Два гады мінула пасля Устаноўчага з'езда Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны. ТБМ — на парозе чарговага форуму, які адбудзецца 14—15 чэрвеня ў Мінску. З чым прыйшлі рупліўцы роднай мовы да свайго другога з'езда, што іх клапоціць і хвалюе. Пра гэта — артыкул аднаго з кіраўнікоў Рэспубліканскай Рады ТБМ навукоўца Леаніда Міхайлавіча Лыча.**

Больш за ўсё нас клапоціць, чаму пры параўнальна спрыяльных варунках нацыянальна-культурнага жыцця, адсутнасці канфліктаў на этнічнай глебе, у нас так марудна расце сетка раённых (гарадскіх) арганізацый і суполак ТБМ, малапрыкметная іх роля ў забеспячэнні фактычнага, а не юрыдычнага статусу дзяржаўнасці беларускай мовы. Здавалася б, пасля таго, як афіцыяльна зняты штучныя бар'еры на шляху руху беларускай мовы ў справаводства, сферу навукі і культуры, навучальныя ўстановы, у нас проста заб'е крыніцай у народзе ініцыятыва па адраджэнню роднай мовы. На жаль, такога ў пажаданых маштабах не атрымалася. Відаць, на настрой, пачуццы народных мас вельмі негатыўна ўплывае занадта ж працяглы, франтальны адрыў ад тых духоўных традыцый, якімі некалі жылі продкі. Ды і дзяржава, грамадскасць на дзіва мала зрабілі па павышэнню сацыяльнай прэстыжнасці мовы. За паўтара года, як быў прыняты Закон «Аб мовах у Беларускай ССР», ніводзін дзяржаўны, партыйны грамадскі дзеяч рэспубліканскага маштабу не палічыў патрэбным выступіць публічна з грунтоўным паведамленнем, што ён робіць у сваёй сферы па надзяленні беларускай мовы функцыямі з разраду дзяржаўных.

Не садзейнічае выхаду беларускай мовы на новыя прасцягі і тая нікчэмная работа, якая праводзіцца ў нас па моўнай перабудове навучальнага працэсу ў тэхнікумах і інстытутах. Зрабіць так, каб ужо сёлета першыя курсы навучальных устаноў у абсалютнай большасці сталі рыхтаваць спецыялістаў на беларускай мове, мы проста абавязаны. Будуць у нашых тэхнікумах і ВНУ такія беларускамоўныя курсы, — адпадуць усялякія праблемы са стварэннем у асяроддзі навучэнцаў і студэнтаў суполак ТБМ імя Ф. Скарыны. Такія суполкі пачнуць расці, як грыбы, запрацуюць на поўную магутнасць, стануць патрэбнымі дырэкцыі, рэктарату, прафесарска - выкладчыцкаму корпусу і студэнцкай моладзі толькі тады, калі навучальна-выхаваўчы працэс пачнуць ладзіць на беларускай мове.

Шмат прэтэнзій да арганізацыі суполак ТБМ можна адрасаваць кіраўніцтву органаў улады Мінскай вобласці. Міншчына ў перыяд самага вялікага нацыянальнага абуджэння — у 20-я гады бягучага стагоддзя, была прыкладам беларусізацыі. Цяпер жа сталічная вобласць не служыць такім маяком у нялёгкім змаганні шчырых беларусаў за адраджэнне свайго роднага слова. Раённыя рады ТБМ створаны далёка не ва ўсіх раёнах.

Убаку ад праблемы і Саветы ўсіх узроўняў пагранічнай вобласці — Брэсцкай. Відаць, рознага роду камерцыйна-турыстычныя пытанні адсунулі на задні план усё, што датычыць нацыянальна-культурнага жыцця берасцейцаў. І таму нездарма, калі гэтымі пытаннямі ўсур'ёз не займаюцца афіцыяльныя структуры ўлады, на паверхню ўсплываюць такія ідэі, якія нічога агульнага не маюць з сапраўдным нацыянальна-культурным адраджэннем вобласці, вырашэннем нацыянальнага пытання, а служаць толькі размыванню і без таго аслабленай у ходзе «палітыкі планамернага зліцця савецкіх нацый» этнічнай самасвядомасці карэннага, беларускага насельніцтва.

З праблемай адраджэння, надання статусу дзяржаўных нацыянальным мовам і ў мінулым, і цяпер даводзіцца мець справу многім народам. Цалкам пагаджаюся з разумнымі падыходамі да адраджэння нацыянальнай мовы ў Татарстане: тут першым патрабаваннем да кандыдата ў прэзідэнты з'яўляецца добрае валоданне татарскай і рускай мовамі. І ў гэтым я ні на ёту не бачу парушэнняў прынцыпаў інтэрнацыяналізму, — наадварот, знаходжу самае аптымальнае спалучэнне нацыянальнага і інтэрнацыянальнага і таму без усялякіх ваганняў хацеў бы прапанаваць увесці такую практыку і ў нас пры выбарах прэзідэнта Беларускай ССР. Больш таго, я стаю за самае шырокае распаўсюджванне гэтага прынцыпу ва ўсіх сферах. Але пачынаць усё ж трэба з Вярхоўнага Савета БССР. Думаю, нікога не пакрыўджу са старшынь яго пастаянных камісій, калі скажу, што ў кожнай з іх ёсць па тры-чатыры, а не, дык і болей членаў, якія паводле сваіх прафесіянальна-дзелавых якасцей ні ў чым не ўступаюць сваім старшыням і маглі б пры патрэбе свабодна замяніць іх. Дык чаму б, скажам, якраз з гэтых трох-чатырох асоб і не выбраць на пасаду старшыні пастаяннай камісіі Вярхоўнага Савета БССР чалавека, які валодае і беларускай, і рускай мовамі? Зрабі мы так у вярхоўным органе дзяржаўнай улады рэспублікі, яе міністэрствах і ведамствах, — як бы адразу вырас прэстыж беларускай мовы! І галоўнае, нікога не крыўдзім, бо перавагу аддаём чалавеку з найбольшым культурна- нацыянальным патэнцыялам (кажуць, колькі хто ведае моў, столькі разоў ён чалавек) і з захаванай, неразмытай этнічнай самасвядомасцю беларуса.

Работу другому з'езду рэспубліканскага ТБМ імя Ф. Скарыны давядзецца распачаць ў варунках, калі многае з таго, што, нам здавалася, будзе адолена ў выніку «кавалерыйскіх наскокаў», аказалася цяжкавырашальнай справай. Эфектыўнасць работы рэспубліканскай Рады ТБМ імя Ф. Скарыны ў многім зніжалася ад таго, што ў яе не было абласных структур, з-за чаго вельмі цяжка падтрымліваць сталыя сувязі і ў патрэбным накірунку ўплываць на раённыя (гарадскія) арганізацыі ТБМ.

Уплыў ТБМ на нацыянальнамоўныя працэсы ў многім будзе залежаць ад таго, якую пазіцыю зойме ў іх дзейнасці наша моладзь. У працэс моўнага адраджэння яна можа ўключацца двума шляхамі: праз стварэнне сваіх самастойных суполак ТБМ у агульнаадукацыйных школах і прафесіянальна-тэхнічных вучылішчах ці праз заснаванне толькі маладзёжных секцый пры ТБМ, галоўнымі сябрамі якіх з'яўляюцца настаўнікі. Павінен сказаць, удзел апошніх у рабоце ТБМ пакуль што яшчэ не атрымаў жаданага размаху. А ў мінулым жа, як вядома, педагагічная інтэлігенцыя была самай актыўнай сілай у адстойванні правоў свайго народа на развіццё роднай культуры і мовы. Тут можна прыгадаць тую велізарную карысць, якую прыносіў для нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі ў 20-х гадах удзел многіх настаўнікаў у дзейнасці Таварыства беларускай школы (ТБШ).

Можна наперад прадбачыць, што ў дакладах і выступленнях удзельнікаў форуму, змагароў за адраджэнне роднага слова беларусаў мы не пачуем пышных, траскучых фраз. Прамоўцы будуць гаварыць больш пра цяжкасці і недахопы, нязздзейсненыя задумы, чым пра дасягненні, бо толькі глыбокі, аб'ектыўны аналіз прычын, што перашкаджаюць набыццю беларускай мовай фактычнага, а не толькі юрыдычнага статусу дзяржаўнай дапаможа ёй сапраўды стаць такой.

**Л. ЛЫЧ, член сакратарыята Рэспубліканскай Рады ТБМ імя Ф. Скарыны.**

**УСІХ, КАГО КЛАПОЦІЦЬ ЛЁС РОДНАЙ МОВЫ, хто хоча выказаць свае прапановы і пажаданні з'езду ТБМ імя Ф. Скарыны, аргкамітэт з'езда просіць звяртацца на адрас: 220005, Мінск, вул. Румянцава, 13, тэл. 33-25-11.**

